Opłata pocztowa uiszczona ryczałtem.

№ 1—2 (6-7) Студзень—Люты 1935 г. Год II.



# БЕЛАРУСКАЯ БОРЦЬ

**Месячнік пчалярства і мядова-лекарскіх зёлак.**

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі Вільня, Каралеўская вул. 3—8. Рэдакцыя адчынена ў аўторкі і пятніцы ад 10 да 14 гадз.

Падпісная плата: на год 5 зл., на поўгоду—2 зл. 50 гр., на 3 мес.—1 зл. 50 гр. Заграніцу — удвая даражэй Цана абвестак паводле ўмовы.

## З НОВЫМ ГОДАМ!

Існуе звычай, каб распачынаючы новы год, рабіць балянс сваей працы і накідваць плян яе на бліжэйшую будучыню,

Ня будзем-жа і мы ламаць гэтае традыцыі і кінем вокам на тое, што зроблена намі за гэтакі кароткі час нашага існаваньня*) і падумаем крыху над тым, якія заданьні стаяць перад намі ў новым годзе.

Кажучы „мы", маем на ўвазе ня толькі нашую часопісь, але і яе бліжэйшага супрацоўніка на абранай ніве—Беларускае Коопэратыўнае Т-ва „Пчала", якія, адзін аднаму памагаючы, імкнуцца да аднэй мэты, да падняцьця на адпаведную вышыню нашага пчалярства і да выкарыстаньня з найвялікшым для сябе зыскам нашых прыродных скарбаў—лекарскіх расьлін.

Падумаем крыху над тым, якія заданьні стаяць перад намі наагул. Пачнем з пчалярства.

Тут галоўным недамаганьнем нашага жыцьця зьяўляецца недахоп адпаведнае веды і паважнага падыходу да спраў пчалярства. Наш пчаляр не зразумеў яшчэ, што пчалярства, пры адпаведных варунках, можа стацца паважным дзейнікам у ягонай гаспадарцы.

Нашым заданьнем дзеля гэтага будзе пазнаёміць нашых чытачоў з навуковымі задачамі ў галіне пчалярства, навучаць іх, як трэба гаспадарыць, каб праца ня толькі аплачвалася, але давала *maxіmum* (як найболей) таго, што можна асягнуць, пазнаёміць як пчаляруюць іншыя народы, і пазнаёміць нашых пчаляроў паміж сабой, каб яны на бачынах „Беларускай Борці" маглі дзяліцца сваімі спасьця-

*) Т-ва „Пчала" ўзнавіла сваю дзейнась у сакавіку 1934 г., а „Белар. Борць" пачала выходзіць з 1-га жніўня.

рогамі, сваей практычнай ведай і г. д.

Далей, нашым пчаляром не хапае зразуменьня патрэбы ўласнае арганізацыі, зразуменьня таго, што арганізаванасьць, асабліва ў сучасных умовах, зьяўляецца першараднным фактарам (дзейнікам) у кожнай галіне жыцьця. Але мала таго, што арганізацыя існуе ці будзе існаваць.

Трэба, каб у яе рады стала як найбольш сяброў. У нашым выпадку трэба, каб у яе рады стала як найбольш пчаляроў, як найбольш фаховых сіл, падгатаваных да працы як навукова, так і практычна. Далей трэба, каб сябры арганізацыі далі ей і адпаведны капітал, без якога ніводная арганізацыя ня здолее нічога зрабіць. Асабліва патрэбны гэты капітал арганізацыям гаспадарчым, якія працуючы ў варунках капіталістычнага ладу знаходзяцца ў залежнасьці ад уложаных у іх капіталаў.

У гэтым напрамку нашым заданьнем будзе высьвятляць усебакова патрэбу і карысьці ўласнае арганізацыі і ў першую чаргу патрэбу ўступленьня ўсіх пчаляроў у ўжо існуючае Т-ва „Пчала“, якое зьяўляецца ня толькі адзінай Беларускай Пчалярскай арганізацыяй, але і адзінай усебеларускай гаспадарчай арганізацыяй Заходняй Беларусі.

Пяройдзем зараз да справаў зелярскіх. Тут трэба перадусім зьвярнуць увагу на тое, што зёлкі становяцца паважным артыкулам у народнай гаспадарцы. Мэдыцына, якая ў працягу больш 80 гадоў знаходзіцца пад уплывам хімічнае прамысловасьці, цяпер ізноў пачынае зварочвацца да натуральных лекавых сродкаў, і дзеля гэтага значна павялічваецца запатрабаваньне на зёлкі. Зьбіраньне зёлак з дзікага стану не задавальняе ўжо гэтага запатрабаваньня і пачынае разьвівацца гадоўля зёлак, якая зьяўляецца вельмі карыснай.

Выясьненьне ўсіх зьвязаных з гэтым пытаньняў, падгатаваньне нашых чытачоў да гадоўлі і збору зёлак і арганізацыя збору, — вось тыя заданьні, якія стаяць перад намі. Мы павінны дапамагчы нашым безработным селянам і вясковай інтэлігенцыі знайсьці ў гэтай галіне адпаведны заработак і выратаваць іх пры гэтым ад вызыску розных спэкулянтаў, якія, карыстаючыся з адарванасьці вёскі ад гандлёвых цэнтраў і з яе незнаёмства з цэнамі, бяз літасьці выкарыстоўваюць усіх на кожным шагу.

Мінулы год, год пачатку нашае працы, ня быў для нас годам збору ўраджаю. Гэта быў год сяўбы, або хутчэй год падгатаваньня глебы пад сяўбу.

Ня маючы адпаведнага капіталу для зарганізаваньня прадпрыемстваў. праз якія нашыя пчаляры маглі бы павясьці свае гандлёвыя справы, або зьбірачы зёлак маглі-б збываць свой тавар, мы павінны былі задавольніцца толькі акцыяй падгатоўкі як адных, так і другіх да працы і да зразуменьня патрэбы гэтакага ўласнага прадпрыемства

Выходзячы з гэтага мы ў першую чаргу зарганізавалі завочныя курсы дзеля збору лекарскіх зёлак. Курсы гэтыя пазнаёмілі нашых курсантаў з тым, што, як і калі трэба зьбіраць, як сушыць, як перахоўваць і перасылаць. Далей былі дадзены апісаньні расьлін, якія сустракаюцца ў нас у дзікім стане і ўжываюцца ў лячэньні.

Зараз з задаволеньнем можам сьцьвердзіць, што праца нашая дарма не прапала, — курсы выклікалі вялікае зацікаўленьне.

Прызнаючы далей патрэбу ўласнае часопісі, мы прыступілі ў жніўні да выпуску „Беларускае Борці“.

Ня маючы грашовых сродкаў і ня ведаючы як нашая ініцыятыва будзе спаткана, мы змушаны былі распачаць выпуск у сьвет „Белар. Борці“ з найменшым накладам коштаў і дзеля гэтага друкавалі яе прымітыўным і танным спосабам.

І тут таксама з задаваленьнем адзначым, што ініцыятыва і праца нашая спаткала прызнаньне ўсяго

нашага вясковага грамадзянства, аб што нам толькі і йшло. Апрача таго, спаткалі мы вельмі прыхільнае адношаньне да нас і фаховае прэсы нашых братоў Украінцаў, ня толькі мяйсцовых, але і заграніч-ных, што дадало нам энэргіі і веры ў пачатую справу. За гэтае падтрыманьне шлем усім нашае шчырае, „дзякуй“.

Уступаючы ў новы год ужо з запэўненым бытам, мы пазваляем сабе перайсьці да выдаваньня „Беларускае Борці“ ня хатнім „дагутэнбэргаўскім“ спосабам, але звычайным друкарскім спосабам і маем надзею, што нашыя чытачы дапамогуць нам выдаваць яе гэтак і далей.

Мы з свайго боку будзем старацца даць ім усё, што толькі будзе магчыма.

З пераходам на друкарскі спосаб выданьня перад намі адчыняюцца магчымасьці пашыраць „Бел. Борць“ так, каб яна магла зацікавіць шырэйшыя кругі нашага вясковага грамадзянства.

Калі нашыя чытачы прызнаюць гэта патрэбным і дадуць нам грашовыя сродкі ў форме падпіскі, мы гатовы даць мейсца на бачынах „Беларускае Борці“ кожнай галіне нашае вясковае гаспадаркі. Асабліва розным дробным пабочным яе галінам, як напр. садоўніцтву, агародніцтву, шаўкоўніцтву і г. д., якія ў сучасных варунках жыцьця могуць значна прыслужыцца да направы быту нашага селяніна.

Мы хочам, каб у „Бел. Борці“ ня толькі кожны пчаляр, але і кожны беларускі селянін мог знайсьці адказ на ўсе тыя пытаньні, якія ставіць перад ім сучаснае жыцьцё.

Мы хочам, каб „Белар. Борць“ магла быць настольнай кнігай кожнага беларускага селяніна.

Мы хочам згуртаваць каля сябе ўсіх Беларусаў, каб з іх, дагэтуль распыленых і не арганізаваных, стварыць адну вялікую, моцную Беларускую Працоўную Сям‘ю.

І мы верым, што ў новы годзе нашыя чытачы нам у гэтым дапамогуць.

Высылаючы гэты першы нумар „Бел. Борці“, пасылаем усім нашым падпішчыкам, чытачом і прыяцелям, шчырае навагодняе прывітаньне.

*Рэдакцыя.*

---

## Зімовае падкормліваньне.

**Падчас леташняга сэзону ў шмат якіх мяйсцох пчолы не змаглі сабраць сабе на зіму адпаведных запасаў і калі пчаляры ня мелі магчымасьці падкарміць іх у восені, або прыпадкова купілі маламёдныя сямейкі, то хочучы ня хочучы мусяць падкарміць іх у зімовую пару.**

**Пазнаць зімою, што пчолы галодныя даволі трудна; на гэта трэба мець добрую практыку ў выслухіваньні пчол і пазнаваць іх стан па шуму. Галодныя пчолы аказываюцца толькі тады, калі пастукаць у вульлей і то слаба — быццам лісьцё шэлясьціць.**

**Калі хто пазнаваць па шуму ня ўмее, а мае сем'і няпэўныя, з малымі запасамі мёду, то павінен падчас адлігі заглянуць да іх. Зьняўшы стрэшку і верхнюю мату, ці падушку заглядаем паміж рамкі ці відаць крыты мёд. Калі відаць то добра, а калі не, то трэба хутчэй падкарміць.**

**Баяцца адкрываць вульлей няма чаго: чарвы цяпер яшчэ няма, а пчолам не пашкодзіць, абы толькі хутка справіцца.**

**Падкормліваць можна:**

**1) Запасовым крытым мёдам у рамках.**

**2) Густым (1 ч. вады, 2 ч. цукру) цукровым сыропам. Рэдкім, ня крытым мёдам карміць нельга, бо ён нацягівае вады, кісьне і шкодзіць пчолам.**

**3) Мядовым цестам.**

**Першы спосаб найлягчэйшы і**

гаварыць шырэй аб ім няма патрэбы.

Цукровы сыроп можна наліць у рамку і даць яе галоднай сям'і. Цікавы спосаб наліваньня сыропу ў рамкі падае гр. В. Шахраюк у № 3 „Укр. Пасічніцта“ за 1927 год. Вось ён наліўшы сыропу ў вашчыну з глыбокімі чарачкамі з аднаго боку заклеівае цэлы гэты бок тоненькай белай паперай (бібулкай— як да папіросаў) выразаўшы кусок па разьмеру рамкі. Тады мае магчымасьць перавярнуць рамку і напоўніць яе сыропам з другога боку. Гэты бок ізноў заклейвае паперай. Атрымліваецца поўная рамка „заскепленага“ корму.

Пчолы лёгка перагрызаюць паперу і выбіраюць сыроп.

Ня хочучы наліваць сыропу ў рамкі, можна наліць яго ў слоік, абвязаць рэдкім палатном і перавярнуўшы ўверх дном паставіць на рамкі, або ў выраз у падушцы (у вул. Дадана). Сыроп павінен быць цёплы.

Падкормліваць сыропам, ці то ў рамках ці ў слоіках можна на дварэ толькі падчас адлігі, або невялікага марозу.

Даўшы сыроп, трэба вульлей шчыльна і цёпла закрыць, а каб падняць у вульлі тэмпэратуру (збольшыць цяпло), добра пад рамкі, калі вульлі Левіцкага, Варшаўскія і г. п. або зьверху палажыць са дзьве бутэлькі з варам, абкручаныя чыстым палатном.

Абагрэтыя пчолы кінуцца браць сыроп, а ў меру таго, як цяпло будзе зьменьшывацца будуць ізноў паступова зьбірацца ў клубок. Найлепш падкормліваць пад вечар, аставіць корм праз ноч, а на раніцы бутэлькі і кармушкі забраць. Можна гэтак паўтараць некалькі разоў.

Падчас вялікага марозу лепш узяць галодную сям'ю ў хату і тут яе падкарміць. Тады ужо грэць бутэлькамі няма патрэбы. Падкормліваецца на нач сыропам цёплым, як сьвежае малако. У хаце не павінна быць лішне цёпла, толькі цёмна і ціха. Раніцай забраўшы кармушку выносім вульлей спачатку ў сенцы, а пасьля на мейсца.

Аднак найлепшым спосабам зімовага падкормліваньня, зьяўляецца падкормліваньне—мядовым цестам.

Робіцца яно так:

Пэўную, назначаную для пчол колькасьць мёду, моцна награваецца, да гарачага сыпецца цукровая пудра і месіцца цеста цьвярдое, як на макароны. Прыблізна на 40 дэка мёду ўваходзіць 1 кілё цукру. З гэтага цеста, яшчэ цёплага, трэба зрабіць блін на 1 цэнтымэтр грубіні, завярнуць яго ў марлю, або вельмі радкое палатно і палажыць на рамкі пад палатно, шчыльна зьверху накрыўшы палатном, калі яно ёсьць у вульлі, падушкай, або матай. Пчолы вельмі ахвотна выбіраюць гэтакае цеста і добра на ім дачакаюцца вясны. Сям'і, якая ня мае зусім мёду, трэба даць 2 — 3 кілё цеста. Падкормліваньне зімой мядовым цестам найбольш карыснае для пчол і найменш клапатлівае для пчаляра.

---

Як. М.

## Хваробы і ворагі пчолаў.

Хваробаю называем адхіленьне ад нармальных жыцьцёвых працэсаў, якія можна пазнаць па зьмене выгляду і па зьмененай функцыі воргану, (часткі цела), які захварэў. Хваробы пчолаў так, як і хваробы ўсіх іншых стварэньняў дакладна апрацавалі і зразумелі вучоныя толькі ў апошнія часы. Гэтаму памагло разьвіцьцё бактэрыолёгічных досьледаў, мэтады штучнага заражаньня, а таксама дакладна апрацаваныя мэтады досьледаў разьвіцьця хваробы ў так дробных

істоткаў, якімі зьяўляюцца пчолы.

Хваробы пчолаў, а таксама пчалінай чарвы зьяўляюцца вельмі паважнаю перашкодаю ў разьвіцьці прамысловага і даходнага пчалярства. І таму пазнаньне і зразуменьне дакладна прычын, прыметаў і пачатку разьвіцьця хваробы, гэта адзіная дарога да змаганьня з гэтай страшной бядой сучаснага пчалярства. Кожны пчаляр павінен быць дакладна абазнаны з хваробамі пчолаў, бо толькі тады ён будзе мець магчымасьць яе лячыць і не дапусьціць да таго, каб яна завялася ў яго пчальніку. Хвароба, якую пчаляр у свой час не заўважыць, робіцца страшною, бо пачынае распаўсюджвацца як у сваім, так і ў суседніх пчальніках. З хваробаю можна змагацца з добрым вынікам толькі тады, калі яна сталася заўважана ў хуткім часе пасьля паяўленьня, гэта значыць, калі яна не пасьпела яшчэ вельмі распаўсюдзіцца.

Хваробы пчолаў мусяць быць інакш разгляданы, як хваробы вышэйшых і большых істотаў таму, што тут трэба ўзяць пад увагу іншую і меншую будову іх цела, а таксама іншыя абставіны іх жыцьця.

Прычынаю большасьці хвароб пчолаў зьяўляюцца дробныя арганізмы, якіх мы можам бачыць толькі ў павялічаючае шкло (дробнаустрої). А мерыць іх можна у тысячных частках мілімэтра так званых мікронах. Адсюль вынікае іх назоў—мікраарганізмы.

Дастаўшыся ў цела пчалы, або чарвы шкодны мікраарганізм (заразка) ён у хуткім часе расплоджваецца, а маючы малы арганізм пчалы, можа яго ў вельмі хуткім часе зьнішчыць. І таму ня можа быць гутаркі аб лячэньні пчалы, як адзінкі.

Жыцьцё пчолаў у сям'і (раі) стварае вельмі памысныя абставіны разьвіцьця іх хваробаў, а блізкая сутычнасьць іх з сабою дае магчымасьць хутка ёй пашырацца.

З другога боку, прыглядзеўшыся дакладна хваробе пчолаў, можна заўважыць, што рой захоўваецца падобна да жывога арганізму, гэта значыць, выказвае пэўную адпор-

## Багатая пчэльня.

Мой сад калодамі абведзен мёдных пчёл, што гаманяць, як неўгамонныя музыкі...

Янка Купала.

А то вось яшчэ: жыў у часе паншчыны адзін заможны зямец.

Аддзяліўшыся ад бацькі, меў ён толькі хатку, хлявок, ды пуньку. Тады разьвёў садок, дастаў ад свайго цясьця ў пасаг за жонкай дзьве калоды пчол, паставіў у садку і год за годам аграбаў раёў.

За гады тры было ў яго калод дзесяць. А забівала дарагоўля на вульлі. Добрая калода каштавала на той час сярэбраны рубель — дужа вялікія грошы. А плеценых з саломы зямец гэты ня любіў: бо ў іх пчолы не вядуцца і мёд гарчэйшы. Дык ён набываў вульлі ў пана ў менку на мёд, а ў іншых зямцоў—на адработ.

За гадоў колькі ля яго двара гуд гудзеў: вульлі стаялі і ў садку, і пад стрэшкаю ля пуні, і на ўзьмежках на гародзе, і за плотам. Пчолы яго заміналі суседзям працаваць, кусалі коні, калі трэба гараць гарод, дзяцей кусалі, а часам і вялікіх людзей, асабліва баб. Нагул зрабілася тут з імі цесна. Дык зямец мусіў вынасіцца ў лес, на расьцярэбы. Узяў у пана права на лапічак у лесе ў расьцярэбах, за дзесяць пудоў мядовай дані ў год, і разьвёў там пчэльню.

Умеў-жа ён хадзіць ля пчол!

Ня бывала гэткіх прыпадкаў, каб у яго пчолы паміралі ўзімку, ці каб гнілец калі ўчапіўся. Не ра-

насьць супроць хваробы, змагаецца з ёю і мае шансы вылячыцца. Ядпорнасьць палягае перадусім на прыбываньні маладых здаровых пчолаў, а змаганьне на выкіданьні з вульля ўжо памёршых пчолаў, каторыя зьяўляюцца крыніцаю заразы. Таму лячыць можна толькі хваробу рою і лячэньне палягае з аднаго боку на нішчэньні заразкаў, каб гэтым ня даць магчымасьці хваробе распаўсюджвацца, а з другога на дастаўляньні рою, разгляданаму, як хворага арганізму, як найлепшых абставін добрага разьвіцьця і змаганьня з хваробаю.

Змаганьню з хваробамі пчолаў дапамагае яшчэ тое:

1. Што хвароба ніколі не апаноўвае пчолаў ува ўсіх стадыях разьвіцьця. Гэта значыць, што хваробы, якія зьяўляюцца вельмі страшнымі для чарвы, ніколі не заражаюць пчолаў дарослых; ніводная хвароба пчолаў дарослых не пераносіцца на чарву.

2. Вельмі вялікая плоднасьць маткі, каторая можа ў летку ў адзін дзень зьнясьці некалькі тысяч яечак і дзякуючы таму ў раі заўсёды прыбываюць новыя і здаровыя адзінкі. Таму, каб мець заўсёды здаровыя пчолы, трэба трымаць маткі толькі здаровыя і плодныя.

Дзеля лепшага зразуменьня хваробаў пчолаў падзелім іх на:

Я. Хваробы чарвы і

В. Хваробы пчолаў дарослых

### А. Хваробы чарвы.

Хваробы чарвы могуць быць заразьлівымі, гэта значыць, што паўсталі з прычыны заражэньня шкоднымі мікраарганізмамі (заразкамі), перанесянымі з хворай чарвы, або незаразныя, якія паўстаюць з праступы, дрэннай ежы і благой маткі і тады будзе хварэць толькі адна сям'я (рой).

### I. Хваробы незаразныя.

Хваробы незаразныя, гэта ёсьць заміраньне чарвы ад праступы і дрэннае ежы. Недахоп цяпла ў вульлі, што вельмі часта здараецца пры дзяленьні ня вельмі сільных сем'яў (на што хварэе шмат нашых пчаляроў), калі ў вульлі не хапае

---

біў ён прагавітае падлазкі, не пакідаў пчолаў на голад, умеў абараніць яе ад ворага. Сам-жа не займаўся ніякімі валхебамі і не хадзіў у сьцюжу прасьвердляваць вульлі суседу.

Ведама, другім зямцом, злосьнікам, завідасьць супакою не давала. Яны й паспрабавалі ваяваць...

Унадзіўся адзін, гэткі-то, хадзіць к яму як-бы па дружбе. Хадзіў-хадзіў, дружыў-дружыў, дый зрабіў ліха. У самую пільнаю пчалінаю пару ў летку, залез украдня ўночы на яго пчэльню, абмазаў на вульлёх усе ходцы, лазы, лётку й тваркі сьмярдзючым салам і атручаным, дурманным мёдам, а сваіх пчол перад тым пачаставаў гарэлкаю ды імбірам, каб лютасьці набраліся. Прайшоў дзянёк... Як паглядзеў зямец, што дзеецца, за галаву хапіўся! Поўзаюць яго пчолы як сонныя мухі ўвосень, а нечыя чужыя так і сякуць іх, так і сякуць, і мёд з вульлёў цягаюць. Доўга не чакаючы, пайшой ён сьледам за чужымі пчоламі — прост к суседу-ліхадзею.

— Што-ж ты гэта, браце нарабіў?

Хацеў спачатку той адперціся, што і пчолы не яго, што і ведаць нічога ня ведае. Яле трудна яму адпірацца, калі ўсё відаць. Ну й кажа:

— Памірымся, кажа, толькі пану не пажалься.

— Каб ты мяне самога адурманіў ці пабіў, нікому жаліцца ня стаў-бы, — адказаў ён ліхадзею,— але за пчолак, безбаронных, нявінных жывёлінак, ці-ж можна дараваць?

— Што-ж ты мне ўчыніш?—пытаецца той.

— Калі адробіш зараз сваю нягодную работу, дык нічога ня ўчыню, забудуся на ўсё...

Убачыў ліхадзей, што злое не

пчолаў, каб пакрыць і сагрэць разьвіваўшуюся чарву, пры вельмі сільнай спэкуляцыйнай падкормцы, калі пчаляр ня можа дастасаваць колькасьці пчол да колькасьці, знаходзячайся ў вульлі чарвы, пры чэраньні маткі ў мядовых магазынах, пры недахопе ў вульлі падушак, або сена пад стрэшкай у халодную пагоду, пры слабым раі, калі рой вясной важыць менш 4 фунтаў і пры частых даўгіх аглядах пчолаў у раявую, але халодную пару, або дрэнную пагоду; наагул заўсёды, калі тэмпэратура стаіць ніжэй 12° С. Заміраньне чарвы можа быць выклікана таксама goладам, а апрача таго ад дрэннай вясеньняй ежы, як напр. ад зацьвіўшага хлеба, (пылку) закісшага мёду і г. д.

Калі чарва замірае ў раі сільным, дык пчолы трупы памершых чарвякоў, вынясуць з вульля хутчэй, чымся гэта заўважыць пчаляр. У раёх слабых у дрэнную і халодную пагоду памёршая чарва астаецца ў чарачках і пачынае гніць і аддае гнілым мясам. Коляр гэтакай чарвы бывае цёмна-сівы, часам чорны, але ніколі ня бывае буры, як пры гнільцы; памірае яна адразу ўся і чарачак з жывой чарвой пасярод памёршай ня бывае; знаходзім яе пераважна на сподзе скрылыгаў вузы, або з берагу гнязда, тады, калі чарва памёршая ад гнільца бывае раскідана, гэта значыць, пасярод памёршых чарвякоў ляжаць зусім здаровыя і памёршыя спатыкаем пераважна ў сярэдзіне гнязда. Чарва паміраючая ад голаду, або прастуды ніколі ня творыць цягучае і ліпкое жыжкі, але ляжыць сухая на дне чарачкі.

Бактэрыялёгічнае заміраньне рожніцца ад гнільцца тым, што ў целе памёршай чарвы ад прастуды або голаду мы заўсёды знаходзім бактэрыі: Bacillus mycoides і Bacillus proteus, якіх пры гнільцы ніколі ня бывае.

*Помніце, што ў лучнасьці сіла і гуртуйцеся каля Таварыства „Пчала“.*

---

ўдалося, схапіў бярэма гунек, посьцілак, мяхоў, абвязаў свае калоды, каб яго п'яныя пчолы ня мелі выйсьця, потым кінуўся з мятнаю вадою да атручанае пчэльні, пазмыў, пазмыў, што там напэцкаў, і кажа:

— Даруй, братка! Дзесятаму заказку... Толькі пан няхай нічога ня ведае!

Нікому не пажаліўся зямец, тым справа й скончылася.

Таксама ніколі ня бывала, каб у таго зямца раі ўцякалі. Другі зямец бяжыць за роем з мокраю саломаю і круціць, каб рой спусьціўся, сеў-бы. А рой ляціць сабе, анігу-гу. Ляціць у лес або ў чужы навужнік, падымаецца, як птушка, —і толькі яго бачылі. У яго-ж гэтак ні разу ня было. Заўсёды рой дапільнуе, ціхенька на сваім месцы аграбе, і свае хатнія часам ня ведаюць, што сяньня быў раёк ці колькі іх. З тых, што робяць з роем гармідару, ён толькі пасьмяецца.—Што гэта, кажа, за такі зямец, што гоніцца за сваім роем аблавою.—А траплялася-ж бывала даўным часам, што няўдалыя зямцы і стрэльбаю стралялі, дагнаўшы конна, каб ён спусьціўся. І шкода, і сьмех, як рой ляціць, а людцы турацца за ім — з сярпамі, сечкамі, нажамі, бляхамі, і звоняць, балабаняць, крычаць: „Каб сеў! Каб сеў! Сеў-паў! Сеў-паў!“ Як быццам рой іх словы разумее? Галасу, можа часам і спалохаецца, а прыказкаю рады не дасі.

Разьвёўшыся на пасеку ў панскіх расьцярэбах, зямец плаваў у мяду. Быў-жа тараваты: даць мёду не жалеў нікому. Даваў бедным людзём мёду на лекі, вузы прыкладываць на пухліну... Падладзіўшы, бывала, не шкадаваў ані сваім, ані чужым. Толькі ня любіў, калі хто

# Справа цукру для пчол.

Ужо сягоньня пчаляроў, якія мусяць ратаваць свае пчолы ад галоднай сьмерці ў веснавую пару, мучаць пытаньні: ці дастануць безакцызовага цукру? па сколькі на сям'ю, ды па якой цане?

Нажаль мусім сабе даць сумны адказ: няма чаго спадзявацца, справа цукру бязнадзейная.

Праўда, што Урад не адмаўляе тых 2 кіл. на сям'ю, але па гэтак падвышанай цане, што ні ў якім выпадку не аплоціцца пчалярам падкормліваць ім пчол. І так, цукар будзе каштаваць бяз коштаў перасылкі за поўныя 100, 200 ці 300 кілягр. па 78 гр. за 1 кілягр.; пры меншай колькасьці ніжэй 100 кг.—па 80 грошы.

Мала таго, цукар апрача пяску ды апілавіньня будзе яшчэ занячышчаны г. зв. „мэтыльфіялетам", які зафарбоўвае сыроп на фіялетавы коляр.

На 100 кг. цукру будзе падмешана 5 грамаў (1/2 дэка) мэтыльфіялету, 5 кілягр. пяску і 3 кілягр. апілавіньня. Сколькі клопату з ачышчэньнем сыропу ад пяску і пілавіньня, кожны з пчаляроў ведае з уласнай практыкі, усёжтакі ачысьціць збольшага можна. З мэтыльфіялетам ужо горш. Ніякім чынам аддзяліць яго нельга, а тымчасам прысутнасьць яго рэч рызыкоўная. Мэтыль на людзкі арганізм дзеіць атрутна. У малой колькасьці ці выклікае ўнутраняе забурэньне, часам можа выклікаць сьлепату, у большай колькасьці спрычыняе сьмерць. Як ён будзе дзеіць на арганізм пчалы? Ці ўжо добра дасьледжана вынікі падкормліваньня цукрам з дамешкай мэтылю? Хто захоча рызыкаваць і рабіць досьледы на ўласных пчолах? Думаем, што такіх знойдзіцца ня шмат.

Страшна падумаць, што той, хто ня зможа купіць чыстага цукру, будзе змушаны глядзець на сьмерць сваіх пчолак. На пацеху скажам сабе адно: гэтая навука дарма не

---

лез к яму ў рабоце. Дый самі пчолкі, як ведама, ня любяць староньніх воч. Пчэльню ён абгарадзіў такім парканам, што ў шчыліну нічога нявідно, што там зямец робіць. Дзьверцы былі заўсёды зачынены.

І хараша-ж было ў яго на пчэльні! Навакола з трох бакоў працярэбленая лесасека, з чацьвертага боку — ляда з грэчкаю, палі, лугі ды сенажаці. Самае пчалінае жыцьцё. У летку зьвініць пчэльня, як адзін рой, дрыжыць, як музыка,— нават трудна і сказаць, якое салодкае там хараство. Стаялі там на пасецы старыя раськідзістыя дрэвы, было шмат кустоў ляшчыньніку, абросшы высокаю пахнючаю травою. Ліпы там цьвілі, многа дзятліны пасела на самых галах, мядуніцаю заўсёды пахла, і ўсякіх дрэў і красак было даволі. Па ўсей пчэльні, або стаялі вульлі-стаякі, прывязаныя к дрэву ці к таўстому каляку, або на казлах абляглісь вялікія лежакі, і ўсе калоды былі добра дагледжаны, пакрыты бяростаю ці яловаю карою. З краю пчэльні, пры самых дзьверцах, стаяла пунька з пустымі вульлямі і з рознымі пчалярскімі прыладамі, у якой заўсёды надта прыемна пахла добрым зельлям, мятаю, мядуніцаю, мядком. Побач з пуняю стаяла невялічкая хацінка, дзе начаваў зямец улетку, а ўзімку жылі слабыя пчолы ў пастаўленых стоцьма й шчытна адна ля аднае калодках.

Сумны канец мела гэта слаўная пчэльня, як і многае тады, у тым мінулым часе ..

Двед-зямец мог-бы адкупіцца ад паноў на вольніцу, ды, на жаль, не адкупіўся. Ці ён баяўся, што пан злупіць з яго вялікія грошы і згоніць далоў з пчэльні, ці ён прост ня мог сабе асвоіць думкі, што

прападзе! Цьвёрда астанецца ў нашай сьведамассці праўда, што на ніякую помач разьлічаць нельга, а толькі на сабе апірацца трэба. Здабываньнем веды, арганізаванасьцю і шчырай працай мы павінны давясьці да такога роўня сваё пчалярскія гаспадаркі, каб нашыя пчолы мелі заўсёды запасы мёду і ніякага цукру не патрабавалі. Тады толькі будзем мець здаровыя і сільныя пчолы, а самі будзем забясьпечаны ад прыкрых неспадзяванак.

В. З.

## Фаховая веда.

У сяньняшні час, час вялікага поступу ўва ўсіх галінах людзкое веды, як дасьледчае (практычнае), так і тэорэтычнае, хочучы стала займацца чым небудзь, неабходна добра ведаць даны прадмет, данную галіну нашае працы, дакладна апанаваць яе з усіх бакоў — практычна і тэорытычна. Дзьвум галінам: пчалярству і лекарскім расьлінам наша часопісь пасьвечана,— яна мае служыць разьвіцьцю гэтых галін і адначасна даваць патрэбную веду нашым чытачом практыкам, адным словам мае выхоўваць нашых чытачоў і сяброў фахова. Кожны пчаляр і зьбіральнік лекарскіх расьлін павінен ведаць дакладна, што ўжо здабыта ў гэтых галінах, і таксама павінен служыць ідэі поступу ў выбраных нашаю часопісьсю кірунках, павінен самадзельна разьвіваць іх, тым больш павінен рабіць гэта той, хто мае да помачы вялікага памоцніка і вучыцеля — практыку. Практыка і дасьлед над цікавячымі нас галінамі мусяць паглыбляць нашу веду лепш кажучы дасканаліць нас фахова. Трыбунаю да высьвятленьня новых фаховых здабычаў у цікавячых нас галінах, павінна быць наша часопісь, бо гэта адно з яе галоўных заданьняў. Канкрэтна бяручы рэч, сьцьвярджаем і паўтараем, што адно з галоўных нашых заданьняў

---

можа быць і з цэлым родам вольны, незалежны ад паноў.

Прыйшла яго старасьць, і перад сьмерцю хацеў зямец адказаць усю пчэльню аднаму старэйшаму сыну, а двум другім — усё іншае дабро. Але пан загадаў, каб падзяліў ён пчэльню між усіх траіх, — мусіць, разьлічаў з траіх зямцоў больш дані браць, чым з аднаго.

Не хацеў зямец дзяліць пчэльню, дужа не хацеў.

— Калі я, кажа, пчолак падзялю, загіне ўся мая пчэльня, бо тыя два сыны зусім няздручныя ля пчол хадзіць.

І як толькі ні даводзіў ён дурному пану, што дзяліць ня варта але як і жонка яшчэ навалілася, каб дзяліў так, як пан кажа, каб ня крыўдзіў меншых сыноў,—прысілены быў падзяліць.

Аж як ён прарочыў, так і сталася. Занядбалі сваіх пчолак маладзейшыя сыны, — ведама, іх сэрца да гэтай справы ня хілілася. Сталі ў іх пчолы паміраць, то з голаду, то з недагляду, ад мышэй, ад зьвяроў, а пад канец усунуўся гнілец. Як ні стараўся той старэйшы брат, ня мог даць рады. Перакінуўся гнілец і на яго часьціну. Гадоў за дзесяць пагінула ўся пчэльня. Адабраў пан пасеку, і за гадоў дваццаць пяць парос на ёй густы ельнік ды бярэзьнік.

М. Гарэцкі.

---

*Калі хочаце мець карысьць са сваіх пчолаў, старайцеся прыдбаць як найбольш фаховай веды, чытаючы адпаведныя часапісі і кніжкі.*

у здабыцьці фаховае веды, гэта дакладна апанаваць усё дасюль ведамае і здабытае ў цікавючых нас галінах;—другое заданьне, гэта самадзельнасьць і поступ. Што маем рабіць, каб асіліць першае заданьне—гэта знача, каб апанаваць дакладна ўсё дасюль здабытае ў пчалярстве і ў гадоўлі ды зьбіраньні лекарска-прамысловых расьлін? Ясная рэч, што маем чытаць і студыяваць падручнікі апісываючыя ўсё нам патрэбнае. Тут на гэтым мейсцы мусім адзначыць, што літаратура патрэбная нам з даных галінаў, у нас беларусаў, у роднай мове надта яшчэ бедная. Маем толькі адзін падручнік з галіны пчалярства — Пачопкі: „Пчолы і як іх вадзіць у рамовых вульлёх", дый і гэты скромны і трохі ўжо перэстарэлы падручнік хутка распрадасца. Як жа быць, каб на будычыню зарадзіць гэтаму важнаму недахопу? Вось-жа рэдакцыя наша пастанавіла прыступіць да выданьня ў сёлетнім годзе цэлага раду адумысных брашур, як з галіны пчалярства, так і з галіны лекарска-прамысловых расьлінаў. Брашуры гэтыя будуць наразе заступаць пякучую патрэбу падручніка; — адначасна нашая рэдакцыя прыняла і прыймае ўсе захады, каб у працягу 1935 году апрацаваць і выдаць новы падручнік з галіны пчалярства. Калі зможам асіліць гэтую першую палову нашага агульнага пляну працу, то ўжо дапаможым нашым чытачом і сябром Таварыства „Пчала" апанаваць дакладна, фахова ўжо здабытую і апрабаваную веду з галін, якія іх цікавяць.

На чарзе цяпер другое нашае заданьне: гэта самадзейнасьць і поступ. Як яго правясьці? Рэч вядомая, што толькі цераз цесную сувязь і лучнасьць усіх нашых чытачоў і сяброў, і цераз супольную волю і ахвоту ўсіх згуртаваных выяўляць на бачынах нашае часопісі ўсё тое, што кожны самадзейна здабудзе на падставе сваей практыкі і досьледу. Падзяліцца гэтымі здабычамі з другімі ёсьць абавязкам кожнага сапраўды культурнага чалавека, адначасна гэтакі спасаб дае магчымасьць другім скрытыкаваць даны здабытак ці вынаход, а бяз здаровае і рачовае крытыкі, як ведаем, няма культуры і поступу. Веда аб пчалярстве ніколі непаўставала і не паўстае ў найбольшай сваей частцы ў зацішшы кабінэтаў навуковых працаўнікоў,—гэта ёсьць веда паўстаўшая з безпасярэдняе абсэрвацыі жыцьця пчолак—цераз вялікіх пчаляроў—практыкаў, цераз іх асабісты, мазольны часта, досьлед Гэтакія людзі ніколі не хаваліся са сваімі здабычамі, яны склалі аб гэтым цэлую вялікую ўжо на сяньняшні час літэратуру, якая са свайго боку шмат прычынілася да поступу ў пчалярстве. Стараймася насьлядаваць іх, стараймася паглыбляць нашую фаховую веду, цераз навуку, цераз практыку, цераз досьлед і цераз лучнасьць паміж сабой —праз сваю часопісь. М. Т.

## Медадайныя расьліны.

**Ясень кітайскі**—укр. Китайский ясень, польск. Jesion chiński, лац. Ailanthus glandulosa. Высокае, малацяністае дрэва. Лісьцё як у звычайным ясені, толькі большае. Кветкі дробныя, сьветлажоўтыя, у вялікіх букетах. Размнажаецца вельмі лёгка насеньнем і атожыльлем, і належыць да найхутчэй растучых дрэваў. Што да грунту вялікага вымаганьня ня мае. Заграні́чныя пчаляры даўно пераканаліся аб выдатнай медадайнасьці ясеня і шмат яго садзяць. З кары ясеня выраб-ляюць ляк, а лісьцём кормяць гусьвіцы ядвабнікаў падчас недахвату лісьця морвы.

**Морва** — рас. Тутовое дерево, (Morus). Ёсьць два гатункі морвы: белая і чорная. Чорная морва дарастае да 10 — 12 мэтраў вышыні, кару мае цёмную, амаль ня чор-

ную, патрэсканую, лісьцё даволі вялікае, сэрцаватае, цёмна-зялёнае, падысподам крыху сьвятлейшае. Лісьцё з абодвых бакоў кашлатае, ягады даволі вялікія, чорныя, прыпамінаюць сваім складам маліны. Расьце чорная морва вельмі памалу, зямлі вымагае багатай і ня вельмі вытрывалая на мароз і дзеля гэтага ня варта яе садзіць і распаўсюджываць. Зусім інакш выглядае справа з морвай белай (Morus alba) Гэтае дрэва дарастае да 18 мэтр. вышыні, грубіня яго дасягая да 4 мэтр. Кару, морва белая мае сьветла-шэрую, старэйшыя дрэвы — цямнейшую, моцна патрэсканую; лісьцё мяккое, гладкое, бліскучае, сэрцаватае або з выразамі. Часта на адным дрэве, або нават на аднэй галінцы, спатыкаецца лісьцё розных формаў. Коляр лісьця сьветла зялёны, падысподам сьвятлейшы. Ягады белая морва мае белыя, чорныя, ружовыя, сьветла-жоўтыя або фіялетавыя на даўгіх хвосьціках; маюць яны ў сабе шмат цукру, але смак іх пераважна прытарны, некаторыя толькі адменны маюць ягады кісլаватыя. Ягады морвы ядуць сырымі (любяць іх асабліва дзеці), або ўжываюць на розныя напіткі. Дрэва морвы цьвярдое, моцнае і мае застасаваньне ў гаспадарцы. Белая морва не вымагае багатай зямлі, расьце амаль не на кожным груньце, найлепш удаецца ў грунтах цёплых, лёгкіх і пясчана-гліністых, горш на зямлі цяжкой. Белая морва расьце вельмі хутка, тры разы хутчэй за морву чорную, і належыць да дрэваў вытрывалых на маразы. Бацькаўшынай белай морвы ёсьць Кітай, Японія і Індыя. Адтуль перанесенай была да Сярэдняй Азіі, Пэрсыі і Турцыі. Да Эўропы першы раз была перанесена каля 553 году. Цяпер расьце амаль не паўсей Эўропе. У Эўропе ўсходняй граніцай яе распаўсюджаньня зьяўляецца лінія, якая ідзе да Петраграду ў напрамку паўднёва-ўсходнім да Каспійскага мора, абымаючы Маскву і Саратаў. У найдалейшых паўночна-ўсходніх мяйсцовасьцях Заходняй і Усходняй Беларусі спатыкаюцца старыя марвовыя дрэвы. Сягоньня вядзецца прапаганда за разводжаньне белай морвы, лісьцём якой гадуюцца гусьвіцы ядвабнікаў, гадоўля якіх дае добры і лёгкі даход. Для пчаляроў морва гэтак сама карысная: цьвіце ў канцы траўня або ў пачатку чэрвеня і дае пчолам мёд і пяргу.

Фэліёдэндрон японскі—укр. Коркове дерево, лац. Phellodendron japonica. Дрэва сярэдняй вялічыні, падобнае да кітайскага ясеня. Лісьцё як у звычайным ясені, кветкі дробныя сьветла-зялёнага коляру, сабраны ў невялікія парасончыкі падобна як у дзікім вінаградзе. Ягадкі дробныя, чорныя. Цьвіце дрэва ў чэрвені разам з белай акацыяй, але даўжэй ад папярэдняй. Расьце ў нас дзе ня дзе ў парках ды заходзіць далёка на поўнач, значыцца марозаў не баіцца. Надзвычайна добра мядуе, дае таксама і пяргу. Апрача фэліёдэндрону японскага можна садзіць у нас яго адмену, фэліёдэндрон амурскі (Ph. amurense). Адрозьніваецца ён ад папярэдняга тым, што ніжэйшы і больш раскладзісты, падобны да высокага куста. Кветкі, як у японскім, толькі ў большых парасончыках, цьвіце зараз пасьля акацыі.

### КУСТЫ.

Акацыя жоўтая (Caragana arborescens) польск. Grochownik żółty, укр. акац. жоўтая, або чипуга, рас. Чилига. Даволі высокі куст, лісьцё мае непарна-пярыстае, як у акацыі белай, толькі дробнае. Кветкі жоўтыя, матыльковыя, сідзяць густа па аднэй, або па дзьве. Цьвіце жоўтая акацыя пасьля садоў у працягу цэлага месяца. Мядуе вельмі добра. Размнажаецца з насеньня і атожыльлем паходзіць з Сібіры. У нас гадуецца ў садох як куст дэкарацыйны, а найбольш надаецца на жываплоты, асабліва ў пясчанай зямлі. Каб прыгатаваць сабе акацыю на жываплот, найлепш высе-

яць вясной насеньне на загончык радок ад радка на 15 цм.; у працягу лета зямлю перакопываць і ачышчаць ад пустазельля, калі суха паліваць. У першым годзе, пры добрым дагляданьні, павінна дарасьці да 30 цм. вышыні. У восені можна ўжо садзіць на мейсца, у два рады ў шахаўніцу па 30 цм. расьліна ад расьліны. Расьце вельмі хутка, дае густы і высокі жываплот. Насеньне жоўтай акацыі мае добры збыт, бо шмат яе садзяць. У Амэрыцы курыныя фэрмы абгараджываюць жоўтай акацыяй, а насеньнем яе кормяць курэй.

Аморфія куставатая. (Amorphia fruticosa) Амофія, або як яе называюць чорная акацыя, гэта невялікі куст, які мае лісьцё падобнае да лісьця жоўтай акацыі і дробныя фіялетавыя кветкі сабраныя ў стаячыя каласкі на канцох маладых галінак.

Цьвіце аморфія зараз пасьля белай акацыі ў чэрвені і ліпні амаль ня цэлы месяц. Дае пчолам шмат мёду і пяргі, ды надаецца на вельмі прыгожыя, дэкарацыйныя жываплоты. Расьце добра ў кожнай зямлі, толькі што падчас вялікіх марозаў прымярзае. Размнажаецца з насеньня.

Ажына—або чорная маліна (Rubus fruticosus). Расьце ў нас дзіка ў лясох і зарасьлях. Гадуецца гэтак сама ў садох і тады дае буйнейшыя і саладзейшыя ягады, якія ўжываюцца на канфітуры і розныя напіткі. Цьвіце ў чэрвені ў працягу цэлага месяца. Дае мёд і пяргу.

(Далей будзе).

## Мёд як лекарства

### Мёд ад цяжкога (хрыплага) кашлю.

На сталовую лыжку мёду, даць гарбатнюю лыжачку добрага сьвежага масла і ўсё заліць шклянкай гарачага малака. Піць гарачае. Вельмі добра памагае, а гэткае лекарства асабліва любяць дзеці.

### Мёд лечыць сьвежыя раны.

У старой магдэбурскай кухарскай кніжцы з 1835 году пададзена, што чысты мёд ёсьць адным з найлепшых сьродкаў дзеля лячэньня ранаў паўсталых ад парэзаў, удараў і г. п. Калі на сьвежыя раны прыкладаць мёд намазаны на чыстае палатно і перамяняць яго праз кожныя 4 гадзіны, то боль вельмі хутка сьціхае, рана ня будзе гнаіцца і загоіцца ў працягу некалькіх дзён.

Гэтак піша нямецкая пчалярская часопісь „Ляйпцігер Бінэн-Цайтунг“, а быццам, доказам гэтага зьяўляецца вестка пададзеная гр. О. Хрушчаком на старонках „Украін. Пасічніцтва“: Летась скалечыў я руку сярпом, — адрэзаў шмат цела: 50 грамаў вагі і 5 мм. грубіні. Ня маючы пад рукой ніякіх сьродкаў, я пачаў лячыць рану мёдам у сумясі з парашком з руты. Пасьля двух дзён, я заўважыў, што рана пачынае гаіцца, а праз некалькі дзён загаілася цалком. Пару гадоў раней, я падобную рану лячыў аптэчнымі лекамі, то вазіўся з ёю цэлы месяц.

Мядовую масьць я раблю так: 1-ну часьць мёду і 1-ну часьць руты высушанай, сьцёртай на парашок і перасеянай праз сіта.

Усё гэта добра мяшаю і гэтай масьцяй мажу рану 3 разы ў дзень. Зьверху кладу пэргамінавую паперу і лёгка абвязываю. Перамяняючы масьць, рану абмываю чыстай вадой, (вада мусіць быць абавязкава перагатаванай — дап. рэдакцыі) ізноў кладу масьць, праз 10 дзён рана загаілася“.

*Лекарскія зёлкі—гэта багацьце нашага краю: не давайма ім прападаць безкарысна.*

## Куток нашых гаспадынь.

На просьбу аднаго з нашых пав. грам. падпішчыкаў падаем рэцэпт:

### Мядовы торт.

5 бялкоў зьбіць на пену. Да яе ўліць $1/_2$ кілягр. перагатаванага мёду. Калі ўжо мёд з пенай добра вымешаны, дадаецца 5 жаўткоў і 10 дэка мукі і зноў мяшаецца. Усю гэтую сумесь уліваюць у пасудзіну вымазаную маслам і пасыпаную цёртай булкай. Пячэцца ў лёгка напаленай печы. Каб даведацца ці торт гатовы, прабуюць яго саломінкай, калі ўторкнутая ў торт саломінка выймаецца сухая, то значыць, што торт сьпечаны, а калі на ёй відаць сырое цеста, то пячом яшчэ.

Гатовы торт папіваюць зьверху чэкалядовай поліўкай. Робіцца яна так: 3 лыжкі цукру, 2 таблічкі сьцёртай чэкаляды, кусочак масла (вялічыні ляснога гарэха) 1 лыжку вады. Усё гэта пераціраюць датуль, пакуль сумесь не набярэ блеску. Зьверху торт можна прыбраць яшчэ лушчанымі гарэхамі, або мігдалалі.

(паводле „Укр. Пасічніка").

## Збор дзікіх і культываваных лекарскіх расьлін.

Вялікія труднасьці для гаспадара пачынаюцца, калі наступае час збору Бяз спэцыяльнай веды уменьня ўся праца і капітал плянтатара ці зьбірача могуць прапасьці дарма. Лекарскі сырэц у сваім складзе мусіць мець лекарскія ўласьцівасьці, а гэтыя ўласьцівасьці ў вялікай меры залежаць ад сваечаснага, ды ўмелага збору. Вось-жа кожны плянтатар ці зьбірач мусіць ведаць тое, якія ласьне часткі расьліны маюць мэдычнае значэньне, як у флёры растучай дзіка, так і культываванай. Апрача таго неабходна ведаць час збору расьлін і іх частак, бо пры несваечасным зборы сырэц ня будзе мець адпаведных лекарскіх уласьцівасьцяў. Урэшце трэба ведаць, як гэтыя расьліны і іх часткі зьбіраць, як іх прыгатаўляць, ды перахоўваць. Гэтае ўменьне зьяўляецца важнай перадумовай збыту сырца лекарскіх расьлін і наагул спрыяе росквіту самой культуры і збору дзікіх расьлін. Нажаль правільных і позытыўных досьледаў у галіне лекарскіх расьлін да гэтага часу ня было, бо сёньня ёсьць шмат лекарскіх расьлін, хімічны склад якіх няведамы.

Збор лекарскіх расьлін варта правадзіць у той пэрыяд, калі яны ў сваім складзе маюць максімум лекарскіх субстанцый. Сучасная фармакалёгія ставіць да збору сырца мэдычных расьлін пэўныя вымогі. У кары лекарскіх расьлін найбольш вытвараецца дзеячых субстанцый у часе прыпыненьня вэгэтацыі расьліны. Кару (Cortex) можна зьбіраць ад позьняй восені да раньняй вясны. Але найлепш зьбіраць кару вясной, як толькі сокі пойдуць у рух, то тады кара вельмі добра зьдзіраецца. Аднак ня трэба забывацца, што кару неабходна зьбіраць да распушчаньня лісьця.

Карэньне (Radices) ды падземнае атожыльле ці карнявішчы (Rhizoma) зьбіраюць у сабе найбольш лекарскіх субстанцый, калі прыпыніцца пэрыяд вагэтацыі расьліны. Існуе пэўная розьніца паміж шмат якімі відамі расьлінаў, якая часткова залежыць ад часу перабываньня яе на полі. Найбольшым згуртаваньнем мэдычных субстанцыяў у карэньнях аднагодніх расьлін будзе перад самым яе красаваньнем, а дзеля таго іх трэба зьбіраць у гэты пэрыяд. Карэньне двулетніх расьлін зьбіраюцца ў восені пасьля першага году вэгэтацыі. Карэньне, падзямельнае атожыльле бульбы шматгадовых расьлін рэкамэндуецца зьбіраць восеньню па другім ці трэцім годзе вэгэтацыі, бо ў пазьнейшы збор у гэтых расьлін пад-

зямельныя часткі дзервянеюць і робяцца ня прыгоднымі да мэдычных патрэбаў. Праўда, ёсьць такія расьліны, што іх карэньне мае лекарскае значэньне пасьля некалькі гадоў вэгэтацыі.

Падзямельныя часткі лекарскіх расьлін зьбіраюць пры помачы лапаты, а для збору тых, што ўжо культывуюцца на палях ці гародах можна застасоўваць спосаб вывырываньня. Гэту працу абавязкава трэба рабіць у сухую пагоду, каб менш прыліпала зямлі. Сьвежа выкапанае карэньне неабходна акуратна абчысьціць з зямлі і прамыць у быстрым цячэньні халоднай вады, прасушыць ад вады, а пасьля даваць сушыць, але перад сушэньнем прадукту ў сушарнях яго намочываць ці мыць нельга Ніколі не рэкамэндуецца доўга трымаць часткі лекарскіх расьлін у вадзе, бо іх мэдычныя складнікі будуць часткова вымывацца вадой, а вартасьць прадукту будзе паніжацца. Апрача таго шмат мэдычных расьлін зусім ня можна мыць у вадзе, а дзеля гэтага з зямлі іх трэба абчысьціць шчоткай.

Надзямельныя часткі расьліны сьцябло з лісьцём і кветкамі-зельле (Herbae), маюць найбольш мэдычных субстанцыяў на пачатку красаваньня, якое й азначае мамэнт збору. Збор можа быць зроблены толькі ў сухую пагоду, бо сабраны ў вільготную пагоду прадукт, ня толькі траціць сваю асабістую вартасьць, а таксама і вартасьць гандлёвую. Збор надзямельных частак (сьцябла, лісьця, красак) праводзіцца часта сярпом ці касой. Сабранае зельле ачышчаюць ад таўстых галін, а пасьля сушаць. Калі зельле дробненькае і мае тонкія сьцяблінкі, дык яно тады сушыцца разам, а пасьля рэжыцца з лісьцём і кветкамі. Прадукт мусіць мець належны выгляд, коляр, пах і смак. Пасьля збору прадукт мусіць быць зараз-жа высушаны ў адпаведным месцы ці ў сушарні. Высушаны прадукт яшчэ раз ачышчаецца ад таўстых сьцяблін і розных дамешак і да прадажы перахоўваецца ў драўляных скрынях ці бочках, якія мусяць быць зачыненыя ды стаяць у сухім месцы. Вельмі часта драгісты скупліваюць цэлыя расьліны, а крышаць іх ужо самі, бо яны тады пэўны ў добрай якасьці прадукту. Лепш прадаваць тавар ня крышаны.

Краскі: (Flores) для мэдычных патрэбаў маюць найбольшую вартасьць, калі дасягнуць поўнага росквіту. Але краскі, якія ўжо даўжэйшы час цьвітуць і падпадаюць працэсам запыляньня тым самым губляюць сваю вартасьць, бо зьмяняецца іх коляр і пах. З некаторых расьлін зьбіраюць кветкі перад іх росквітам у выглядзе пупышак. Асноўным прынцыпам пры зьбіраньні красак ёсьць тое, каб зьбіраньне правадзілася ў сухую пагоду. Раса таксама нэгатыўна ўплывае на якасьць прадукту, а дзеля таго трэба зьбіраць краскі каля 10 гадз. да паўдня і не пазьней 6 гадз. папаўдні. Зьбіраньне кветак вымагае цярплівасьці і зручнасьці работнікаў. Цяпер збор кветак праводзіцца толькі рукамі, ды й ручная праца дае чысьцейшы прадукт, як машыновая, апрача таго да сяньняшняга дня яшчэ няма адпаведных тэхнічна - сконструаваных машын, каб дасканальна праводзілі гэту працу. Работнік мусіць мець спераду ці на плячах кошык, у яго зьбірае кветкі. У сушарню кветкі мусяць адносіцца невялікімі партыямі па меры патрэбы. Дзеля атрыманьня добрай якасьці прадукту сабраныя кветкі трэба класьці ў невялікія кошыкі, бо ў большых кошыках яны за кароткі час пачычынаюць псавацца. Нельга сьвежых кветак утоптываць ці прыціскаць як у кошыках, так і ў руках.

Лісьцё (Folia) для лекарскіх мэтаў мусіць быць сабрана, калі яно даволі ўжо разьвілося, але ў кожным выпадку не старое. Гэты час прыпадае, калі расьліна пачынае цьвісьці, або перад самым цьвіценьнем. Зьбіраць лісьцё трэба таксама ў сухую пагоду. Збор лісьця будзе найбольшым тады, калі яно

будзе зрывацца паступова, такім чынам за год можна зрабіць збор 4 разы. Праўда, пры культуры вялікіх плянтацыяў такі спосаб зборкі будзе турботны і каштоўны. Тут робяць так.—Калі на расьліне ёсьць большая частка лісьця, што ўжо годная да збору, тады плянтацыю косяць, прыкл. мята, мэліса, або цэлыя расьліны вырываюць рукамі, далей або сушаць і ўжо з сухіх сьцябёл абрываюць лісьцё, або са сьвежых расьлін абшчыплiваюць лісьцё. Апошні спосаб дае лепшы матар'ял для аптэк.

Насеньне (semino) і фрукты (Fructus) для лекарскіх патрэб павінны быць зусім сьвежымі, ні сапсаванымі даўгім перахоўваньнем, сырасьцю ды камамі. Насеньне ачышчаецца з пылу і розных пабочных дамешак ды перахоўваецца зусім сухім у адпаведна зачыненых судзінах і ў сухім памяшчэньні.

Вялікая колькасьць лекарскіх расьлін мае ў сваім насеньні найбольш мэдычных субстанцыяў у той мамэнт, калі яно сьпелае, як маліны, чарніцы, журавіны, аніс, канаплі, а другія—калі ня зусім сьвежыя: Paporez somniterum, Cubeba officinalis, трэцьція, калі зусім зялёныя, напр. Citrus vulgaris. Большая частка насеньня паддаецца сушцы, але ёсьць шмат сьвежых ня сушаных фруктаў, з якіх прыгатаўляюць сыропы, напр. Fruktus cerasi, Fr. Oxtycicci, Fr. Rybes, Fr. Rubi idaci і г. д.

Пры зьбіраньні фруктаў і насеньня мусіць быць прадугледжана пэўная асьцярожнасьць, каб ня мець страты матэр'яльнай, а таксама страты і на самой якасьці ўраджаю.

Дзікая флёра рэдка расьце вялікімі групамі, а ў большасьці выпадкаў паадзінокімі індывідуамі сярод іншай расьліннасьці, дзеля таго збор лекарскі расьлін яшчэ больш камплікуецца. Уся гэта праца пры зборы культававаных, а таксама дзікіх лекарскіх расьлін, можа выконывацца асобамі, якія прывыклі да цяжкой фізычнай працы, як старымі людзьмі, інвалідамі ці школьнай моладзьдзю.

Збор пыпушак. Пыпушкі (Gemmae) зьбіраюцца вясной, зьбіраць іх трэба, калі яны яшчэ не распусьціліся, але ўжо добра набухлі. У гэты пэрыяд свайго разьвіцьця пыпушкі маюць найбольш мэдычных субстанцыяў. Пыпушкі трэба зьбіраць асьцярожна нельга іх сьціскаць рукамі, але лепш падразаць вострым нажом. Зьбіраць толькі з бочных галінак, каб ня нішчыць дрэваў. Асаблівую ўвагу трэба зьвярнуць, каб усе пыпушкі былі сьвежыя, цэлыя нераспусьціўшыяся. Хвосьцікі былі смольныя—мелі прыемны пах.

інж. М. Гаврыленко.

## Ад Рэдакцыі і Адміністрацыі.

*З прычыны спазьненьня з выпускам нумару «Беларускае Борці», што паўстала дзякуючы пераходу на выдаваньне яе друкарскім спосабам, Рэдакцыя пастанавіла прадоўжыць прэміяваную падпіску да 15 сакавіка. Хто ўнясе да гэтага тэрміну падпіску, адразу за цэлы год — атрымае 2 порцыі насеньня найлепшых медадаеў, а хто ўнясе за паўгоду—атрымае 1 порцыю.*

*Кожны пчаляр у сваіх уласных інтарэсах павінен стацца падпішчыкам «Беларускае Борці» і пасьпяшыць з высылкай грошаў.*

*РЭДАКЦЫЯ і АДМІНІСТРАЦЫЯ.*

## „Камунікаты Т-ва „Пчала“.

Т-ва „Пчала“ гэтым паведамляе пав. грам. пчаляроў, што воск дзеля пераробкі на вузу прыймае толькі да дня 1-га сакавіка г. г.

Воск перарабляецца па цане 1 зл. 80 гр. за кілё; перасылка на рахунак закашчыка. Дзеля таго, каб перасылка абышлася таней, радзім воск высылаць партыямі.

Т-ва „Пчала“ прымае падпіску на 3-х тыднёвыя завочныя курсы па арганізацыі зборы мядова-лекарскіх і лекарскіх зёлак. Цэлы курс абымае 9 лекцыяў, якія будуць высылаць раз у тыдзень партыямі па 3 лекцыі.

Навука на курсах бясплатная, толькі, як зварот коштаў паперы, друку і паштовых расходаў, сябры Т-ва „Пчала“ і падпішчыкі „Бел. Борці“ ўносяць па 2 зл., а ўсе іншыя па 3 зл.

*Управа Т-ва „Пчала“*

Рэдакцыя „Бел. Борці“ шукае пчаляроў-супрацоўнікаў, якія ведаюць мовы: нямецкую і англійскую.

## Паштовая скрынка.

Гр. П. Прадуха. Лістоўны адказ Вам выслалі. Рассаду валяр'янкі можна дастаць: K. Kępiński, Włodawa 2, аднагадовыя 4 зл. 50 гр. за 1000, двухгадовыя 4 зл. за 1000. Мяты: poczta Koło, skrzynka pocz. 27, цана 10 зл. за 1000.

Гр. В. Пацкевічу. — Пробны нумэр „Белар. Борці“ высылаем, знойдзіце ў ім усе патрэбныя інфармацыі аб курсах пчалярскіх Укр. Інстытуту Пчол у пустым будынку зімаваць можна, паскольку ў ім спакойна і няма мышаў.

Гр. В. Мяцежу. На курсы пчалярскія Укр. Інстытуту можна запісацца праз Рэд. „Бел. Борці“. Зрэштаю ўсе інфармацыі знойдзеце ў гэтым нумары.

Гр. П. Немецу. Цяперашні друк „Бел. Борці“ павінен Вас здаволіць.

Гр. Міхальчыку. Высылкі „Белар. Борці“ на Вашу просьбу не перарываем, маючы надзею, што падпіску будзеце старацца ўрэгуляваць.

Гр. Т. Чарвяку. У гэтым нумары даем абвестку аб завочных курсах Украінскага Інстытуту, якія вядуцца ў мове ўкраінскай. Запісацца можна праз рэдакцыю „Бел. Борці“. Табліцу вышлем.

Гр. Я. Данісейку і Мікалаю Узлоўскаму. Пробныя нумары высылаем. Варункі падпіскі знойдзеце на першай старонцы.

Гр. гр. М. Таеўскаму, Р. Яноўскаму, Ул. Хамяку, Ал. Кутэлеўскаму, Яр. Гнідэцкаму. Пробныя нумары высылаем.

№№ 1—2 (6—7) высылаем на ўсе атрыманыя адрасы; далейшыя нумары будзем высылаць толькі тым, хто прышле падпіску.

**ЗАПІСЬ НА КАРЭСПАНДЭНЦЫЙНЫЯ ПЧАЛЯРСКІЯ КУРСЫ УКРАІНСКАГА ТЭХНІЧНА-ГАСПАДАРСКАГА ІНСТЫТУТУ ПРЫ УКРАІНСКАЙ ГАСПАДАР. АКАДЭМІІ Ў ПАДЭБРАДАХ.**

Выкладаюць 5 лектараў, 16 лекцый каля 200 бачын вялікага фармату, 164 артыстычна выкананых малюнкаў—цыклёстылёвы друк. Плата за вучэньне (разам з падручнікам) 70 карон чэскіх, на польскую валюту каля 16 зл. Цана падручніка (без навукі) 50 кч. польскіх 12 злоты.

Для беларускіх пчаляроў, гароднікаў і арганізацыяў пры гуртовых заказах скідка: 10 — 25 экз. па 11 зл.; 26 — 50 па 10 зл.; 51—80 па 9 зл.; 81—150 па 8 зл.; 181 і больш па 7 зл.; за адзін экзэмпляр з перасылкай і ўпакоўкай.

Заявы падаваць на імя рэктара Укр. Акадэміі адначасна высылаць грошы ў Польшчы на Р.К.О. № 191500. На інфармацыі далучаць міжнародны паштовы значок.

Адрас: Ukrainsky Techicko-Hospodarsky Institut, Podebrady, Tchecoslovaquie.

Выдавец-Рэдактар Л. ВОЙЦІКАВА

Белар. Друк. ім. Ф. Скарыны, Завальная вул. 1—2.